## 4

Калі ехала па вуліцы, хоць старалася не глядзець, у цемры краем вока заўважыла: на Васілёвым двары — ціха, пуста. І хоць не ўбачыла нікога, хоць госці радасна, на ўвесь свет галёкалі, штосьці кальнула сэрца, як пры паглядзе на яго брацікa,— вінаватае і жывое....

Ад гэтага ўсю дарогу амаль не чула, не прыкмячала нічога. Толькі і запомнілася, як — ужо на Карчовым двары — мусіць, прытка зляцеўшы з воза, Сарока паслізнулася і ўпала ў гразь, але не разгубілася, борзда ўскочыла, заверашчала:

> Выходзь, свякрухо губата,—
> Прыехала нявестка багата!..

Свякруха і свёкар, якія ўжо стаялі на ганку, добра відныя ў святле, што падала з хаты, запелі наперабой:

— Заходзьце... Заходзьце... Нявестачко мая... Людзі ўсе добрыя... Пад нашу страху... Заходзьце...

Глушачыха ўгледзелася ў Ганну, па-мацярынску пацалавала. Тады п'яная, расчуленая мачыха прыліпла да гаспадыні:

— Ой, сваццечко бо мая! Рыбачко ты мая!..

Ледзь Ганна, акружаная гоманам і тлумам, ступіла ў цяперашнюю сваю дамоўку, вінаватасць перад Васілём адразу прапала. Ганна раптам пачула сябе дзіўна няўпэўненай, нясмелай, ішла з асцярогай, паглядвала неспакойна, быццам баялася непрыемнай нечаканасці. Здавалася, нібы ступіла на кладку, якую невядома як прайсці...

Тут усё было такое непадобнае на яе родны кут: і роўная, ганарлівая печ, і далікатныя, з хітра выразанымі спінкамі, пафарбаваныя канапы, і пільныя багі, і халодная карціна за шклом з зялёнымі гарамі і жоўтымі цэрквамі, і дзіўны пах, цеплаваты, душны, што прабіваўся нават праз пах смажэння. Яна ўжо бачыла гэты пакой некалькі разоў: прыходзіла наймацца рабіць, прыносіла мяшок з-пад пазычанага жыта — і кожны раз чула яна цеплаваты пах гэты, кожны раз брала яе тут нясмеласць, гняло неяк і хацелася хутчэй выбрацца на вуліцу, на волю. Можа ў гэтым вінаваты былі толькі непрыемныя згадкі, але і цяпер, хоць

яна ўступала гаспадыняй, нясмеласць, даўкасць зноў дзіўна агарнулі яе.

Ганна заўважыла, што і другія «з яе рукі», хто ўваходзіў у хату, таксама прыціхалі, хутка хрысціліся на абразы.

— Заходзьце, заходзьце, людзі добрыя,— жвава тупаў, трос сухою галоўкай Глушак.— Світы от тут павесіць можно, на кручкі. Ці от на лаўку кладзіце...

— Каля печкі на палаці можно,— памагала Глушачыха.— Кладзіце, кладзіце...

— І не тапчыцеся, як у гасцях. Туды бо к сталам адразу... Заходзьце, садзіцеся... Усё даўно гатово ўжэ... Ідзіце...

— Аге, заходзьце і садзіцеся. Дзе каму лепей, спадобней...

Але людзі не ішлі, тапталіся каля дзвярэй, каля сцяны, як бы чакалі яшчэ нейкай каманды ці прыкладу якой-небудзь адважнай галавы.

— Садзіцеся, пакуль просяць,— выступіў раптам не заўважаны спачатку ў агульным тлуме Дубадзел, што стаяў каля акна на вуліцу. Ён стаяў, раскарачыўшы цыркулем тонкія ногі, дробны, гарбаносы, у вайсковай гімнасцёрцы, акінуў мутнымі вачыма гасцей і, як у прэзідыум, упэўнена пайшоў за стол. Усе моўчкі сачылі за ім: начальства.

— А то, мабуць, гарэлка ўжэ ўсохла,— адразу падтрымаў яго Яўхім.— Ну, чаго стала, як усё адно ў гасцях,— зарагатаў, штурхнуў ён пад локаць Ганну.

— Праўда ж бо, будзьце ўсе як дома! — запела Глушачыха.— От глядзіце, як Андрэйко,— кіўнула яна на Крываротага.

— Словам, бярыце прыклад з уласці! — кінуў стары Глушак.— Ідзіце бо, сваток і сваццечко, да дзяцей сваіх.

— Авечка да ягнят, а курачка — да куранят,— уставіла Сарока.

Мачыха і Ганнін бацька паслухмяна палезлі за стол, за якім ужо ўладкоўваліся ў куце побач з Крываротым Яўхім і Ганна. Правёўшы іх крыху нібы пад вартай, пасадзіўшы Сароку і Пракопа, стары Глушак вострым каршунячым позіркам глянуў на іншых: людзі ўжо не тапталіся каля дзвярэй, разыходзіліся, разбіраліся па лаўках.

Ганна сядзела на покуце ўсё з той жа нясмеласцю і асцярожлівасцю, якія не ападалі, не адступаліся, сядзела, амаль не варушачыся, нерухомая і прамая, як бы скамянеўшы, глядзела перад сабой. І так жа нерухома ляжалі на каленях яе рукі. Ад няёмкай, лішне прамой, нацятай паставы, ад нерухомасці чулася ёй у целе стома, але яна цярпела, трымалася так, як, вучылі яе, трэба было трымацца ў гасцях. Тут, у чужой хаце, у дзяржаве, дзе цараваў строгі Глушак, неяк асабліва адчувалася непарушная ўлада звычаяў і законаў.

Дзіўна, якія ўсе тут былі ціхія, паважныя, не толькі не крычалі, але амаль што і не гаварылі голасна, перашэптваліся ці найбольш маўчалі. Адзін Дубадзел трымаўся вольна — адваліўшыся на спінку канапы, засунуўшы рукі ў кішэні штаноў, аглядваў Ганну такім позіркам, што ёй было няёмка. Яна была рада, калі ён адвярнуўся, паблукаў вачыма па гасцях.

— А ты, Глушак, не промах!..— прамовіў Дубадзел, не пазіраючы на Яўхіма.— Дзеўка — з перцам!

— Хто? Мая?.. З перцам — угадаў! — Ганна пачула Яўхімаў смех.— Вока ў цябе — з аднаго пагляду заўважыў!..

— Угледзеў! Як зірну, навылёт бачу — што да чаго!..

Гаворка на гэтым перарвалася, бо падышоў Яўхімаў бацька з пляшкаю, стаў наліваць гарэлку маладым. Пасля Ганны Глушак намерыўся напоўніць шклянку Дубадзелу, але той узяў за пляшку, паглядзеў на фабрычную наклейку, паморшчыўся:

— Ты што мне, бацько, етую гарадскую? Як усё адно анцілігенту — упаўнаважанаму якому...— Ён чуў, што ўсе сочаць за ім, і ўжо гаварыў нібы не аднаму Глушаку: — Ты мне — свойскай, куранёўскага вырабу! Простай мне — як усяму народу!..

Дубадзел павёў вачыма па людзях, як бы чакаў адабрэння. За сталамі шумелі прыхільна.

— Нашай яму! «Кустоўкі» куранёўскай!

— Свой чалавек! Па-простаму!..

Дубадзел улучыў момант, калі шум заціх, крыкнуў асцярожнаму Глушаку, які стаяў, вагаўся:

— Не бойся! Шабету не перакажу!

Грымнуў рогат. Яўхім сказаў са смехам:

— Дайце, тато! Не бойцеся! Чулі ж — кажа, што не перадасць у міліцыю!

5

Яшчэ да таго як Глушак управіўся наліць усім, Дубадзел падняўся, абцягнуў гімнасцёрку пад поясам, важна пакашляў у кулак. Яўхім крыкнуў:

— Ціхо! Улада хоча гаварыць!

Хоць адразу стала ціха, Дубадзел не спяшаўся гаварыць.

— Грамадзяне жыхары сяла Курані! — заявіў ён, вытрымаўшы належную паўзу.— На даным етапе, калі мы сабраліся тут у дзядзькі Глушака і сядзім за сталом, а таксамо тут сядзяць маладыя, каторыя ўступаюць тым самым у сумесную жызнь,— Яўхім Глушак і яго нявеста, а цяпер ужэ, можно сказаць, яго законная жонка,— хоць яны і вянчаліся ў царкве, а не рэгістрываліся ў сельсавеце, як ето раяць савецкая ўлада і бальшавіцкая парція ўсім свядомым алементам... На даным етапе савецкая ўлада і парція прызывае ўсіх сялян, каторыя сваім мазалём робяць на зямлі, арганізоўвацца ў кааперацівы, а таксамо, каторыя могуць, і ў камуну — кеб, значыць, абагульніць усё разам: і землю, і коней, і курэй, і ўсё іншае, як у Вадавічах. А тых, хто шчэ не ўступіў і чэсно робіць на сваёй зямлі сам, савецкая ўласць і парція прызывае так рабіць і далей і сплачуваць точно ў тэрмін падатак, не чакаць, як каторыя, напамінання і пены...

Выказаўшы гэту сваю дэкларацыю, якую госці слухалі хто з пачцівай, а хто з цярплівай увагай, Дубадзел момант перадыхнуў і вярнуўся зноў да маладых:

— А таму ад імя Алешніцкага сельсавета Юравіцкай воласці жадаю нашым маладым — Глушаку Яўхіму і яго нявесце, а цяпер жонцы Глушак Ганне, кеб булі здаровыя і жылі дружно і ў дастатку, як належыць па савецкаму закону! — Ён хацеў яшчэ штосьці сказаць, але думка, мусіць, не далася, і ён раптам крыкнуў: — Адным словам — горко!

За сталамі ахвотна закрычалі ўслед за ім, і Ганна зварухнулася, паслухмяна ўстала.

— Кеб жылося і кеб вялося! — не прамінула ўставіць Сарока.

Старому Глушаку і прамова, у якой былі непрыемныя, асабліва ў такі дзень, напамінкі пра падатак ды камуну, і тое, што чужы чалавек улез, паламаў законны парадак за сталом, адпіхнуў яго, гаспадара, убок, не спадабалася, але ён прымусіў сябе змаўчаць і нават выглядам не паказаць нездавальнення. Хай чорт яго чапае, Крываротага гэтага: які ён ні ёсць, а ўлада.

Разважыўшы, Глушак нават падышоў да кутка, дзе сядзеў Дубадзел, пахваліў:

— Разумны ты чалавек, Андрэйко! Як сказаў, аж заслухацца можно. Калінін чысто!

— Калінін далёко, а ён — блізко, наш! — адгукнулася Сарока, цягнучыся чаркай да Дубадзела.

— Калінін хоць далёко, ды — галава! Над усім народам — галава! Усесаюзны стараста!

— І ты, Андрэйко, галава!

— Усім галавам галава!

Дубадзел не стаў спрачацца: мутным, важным позіркам прайшоў па тварах гасцей, запыніўся на Ганне. Глушак падліў яму ў шклянку і сказаў да ўсіх:

— Тут сядзіць у гасцях наша савецкая ўлада. Андрэйко, таварыш Дубадзел — наш алешніцкі Калінін... Дак кеб ён буў жывы і здаровы!

Глушак ужо ўзяў да губ шклянку, ужо госці зашумелі: «Кеб буў жывы і здаровы!» — калі Дубадзел ускочыў, крыкнуў:

— Няхай жыве змычка горада з сялом!

Пад гул і крыкі адабрэння ён уліў у сябе поўную шклянку самагонкі, паставіў шклянку дагары, нібы паказваючы, як трэба піць за такую вялікую справу,— да кропелькі. Дубадзел не паморшчыўся, не адразу стаў закусваць, павёў на Ганну задаволеным, ганарлівым позіркам.

Ён быў нецвярозы, яшчэ заходзячы за стол, а цяпер, бачыла Ганна, хмель разбіраў яго больш і больш, і яго п'яныя позіркі выклікалі ў яе гідоту. Ёй і так было тут не вольна, не лёгка, а гэтыя позіркі дадавалі ёй няёмкасці. Добра яшчэ было, што хоць сядзеў ён не побач, за Яўхімам...

Але неўзабаве Дубадзел з п'янай адкрытасцю сказаў Яўхіму, каб Ганна села між іх.

— Не аднаму табе сядзець з ёй!..

— А мне што? Няхай і каля цябе пасядзіць! — Яўхім зарагатаў.— Я не раўнівы! — Ён загадаў Ганне: — Перасядзь сюды!

Ганна не адразу паслухалася. Думала спачатку, што не будзе прымушаць, зменіць усё на жарт, але ён маўчаў, і ў маўчанні яго чулася ўпартасць, злосць на яе непаслушэнства. Ён не збіраўся мяняць загад, чакаў, і яна перасела. Што ж, не свая хата, не вольная воля.

— Чаго не хацела перасаджувацца?

— А вам ето так важно знаць?

— Вы, бабы, любіце, кеб мужчына красівы буў?

— А вы не любіце красівых жанок!

— А таго не знаеце, што скалечыла мяне так за савецкую ўладу. Паляк шабляй ударыў пад горадам Баранавічы. Ясно?

— Чалавек кроў праліваў за савецкую ўладу!

— Правільно, Глушак!

Дубадзел памкнуўся да Яўхіма, задаволена, моцна ляпнуў яго — Ганна, як магла, адхілілася ад пляча, што ўткнулася ёй у грудзі. Ледзь прамаўчала.

Стары Глушак падліў гарэлкі, і Яўхім з Дубадзелам чокнуліся. Тады старшыня павярнуўся са шклянкай да Ганны, прымусіў і яе ўзяць чарку.

— Трэба піць! — заўважыў ён, што Ганна ставіць чарку на стол амаль некранутую.

— Я выпіла, сколькі хацела...

— Усю трэба!

— А калі я — не хочу?

— Усё адно. Госцю гадзіць трэба...— не адставаў Дубадзел.

— Усім не нагодзішся. Гасцей унь сколькі, а я адна...

— І ён адзін,— заўпарціўся Яўхім.— Ён такі адзін — гірой і начальство!

— Ну, можа і адзін. Дак хай і п'е сабе адзін.

— А я не хачу піць сам з сабою!

— Дак выпіце з цёткай Сарокай! Яна будзе рада!

— А ён хоча з табою! — гарачыўся Яўхім.

— Тады — калі яму так хочацца — няхай пацерпіць. Да другога разу.

— А ён цяпер хоча! — насядаў Яўхім, шалеючы ад яе ўпартай непакоры.

За сталамі ўсе прыціхлі. Якія ні былі п'яныя, пачулі — наскочыла каса на камень. Яшчэ не згулялі вяселля, а ўжо счапіліся, так счапіліся, што, відаць, і адзін не саступіць, і другая не паддасца. Глядзі, як набычыўся Яўхім,— яму і цверазаму слова папярок не кажы, а цяпер, п'яны,— як рысь той. І яна ж — белая-белая, толькі вочы агнём гараць!

— Выпі! — прасіпеў Яўхім.

— Не буду! — цвёрда сказала яна. Па тым, як сказала, чулася, што ні перад чым і ні перад кім не пераменіцца.

Дубадзел сам паспрабаваў уціхамірыць Яўхіма:

— Не хоча, ну, і няхай!.. Вып'ем удвух! — Ён сунуўся са шклянкай да Яўхіма, але той адвёў яго руку:

— І яна вып'е!

— Не буду!

Ганна раптам ускочыла, кінулася з-за стала. Адразу ўзнялася мітусня. Адны абкружылі Ганну, якая рвалася з хаты, суцяшалі, супакойвалі, другія трымалі, угаворвалі Яўхіма.

— Волі багато бярэ сабе! — крычаў Яўхім.— Слухаць нічога не хоча! Падумаеш, паненка!

— Не буду я тут! Не хочу! — не слухала жаночых угавораў Ганна.— Дадому пайду! Дадому!.. Пусціце! Дадому!.. Дадому!

— Ціха ты, ціха, Ганначко! — лагодна казала мачыха.— П'яны ён, п'яны. Выпіў, ну, хмель у галаву і пайшоў, замуціў. П'яны чалавек чаго толькі не нагаворыць!.. Выпіў, сама ж бачыш!..

— Перацверазіцца — сам будзе нярады,— памагала ёй свякруха.

— Дадому! Дадому хочу! Тато, хадземце дадому!

— Ціха ты, ціха, Ганначко! Супакойся! Не ўбівай сабе ў галаву чаго не трэба!.. Усё будзе добра! Добра будзе, павер!..— Мачыха зірнула на Ганнінага бацьку, які стаяў побач, гатовы любую хвіліну на падмогу дачцэ: — Адыдзі, без цябе разбяромся!.. Супакойся, Ганначко. Усё добра будзе!..

— Не хочу тут аставацца! Дадому хочу!

— На от выпі вады халоднай! Ці можа ў сенцы пойдзем, астынеш? Хадзем, Ганначко, рыбко!

Калі вялі Ганну ў сенцы, мачыха супакоіла:

— Яшчэ не такое пабачыш. Усякае будзе, пажыўшы!..

Маладых супакоілі, прымірылі, пасадзілі зноў разам, і рэшту вечара дагулялі як трэба, па «закону». Толькі калі госці разышліся і маладыя засталіся адны ў прыціхлай чыстай палавіне, перад шырокім, купленым к вяселлю ў Юравічах жалезным ложкам, Яўхім нагадаў спрэчку, але без злосці, згаворліва:

— Забываць бы трэба, што нічыя була. Мая цяпер, і слухацца павінна б. Не ганьбіць.

— Помніш, што я табе адзін раз казала? — прамовіла Ганна ціха: ёй здавалася, што да іх з-за сцяны прыслухоўваюцца старыя Глушакі.— Што са мной трэба — кеб па-добраму!

— Па-добраму, па-добраму! Ну і цаца ж ты! Як бы бог знае, дзе расла!

— Дзе ні расла, а такая вырасла. Урода такая. І другая не буду!

— Дрэвы з гадамі мяняюцца, не тое што людзі. Рэчка вунь якія алешыны выварочвае!..

— Ты не рэчка, а я не алешына. Помні — хоць і жонка я, не сваёй воляй жыць павінна б, а толькі — штоб па-добраму са мной!

Яўхім паглядзеў на яе — вось жа, скажы ты, упартая, яшчэ толькі ўвайшла, а ўжо камандуе,— але спрачацца не стаў, прымусіў сябе засмяяцца:

— Хопіць ужэ гаворкі етай! І так галава трашчыць! Лажыцца ж можа ўжэ час?

У тую ноч, першую ноч замужжа, Ганна доўга не магла заснуць. Адсунуўшыся ад Яўхіма, адвярнуўшыся, стараючыся не чуць, як ён храпе, ляжала яна, спусцелая, стомленая, атупелая ад пеAccording to the image it is "пераЖытага"... ражытага, ад нядаўняга гоману, ад самагоннага дурману. Ляжала ў душнай цемры, здавалася, забытая ўсімі, пакінутая, адна-адзінокая ў цэлым свеце.

«От і ўсё»,— як бы прарываючыся праз туман, думала яна з такою тугою, нібы настаў канец свету. «Усё, усё, усё»,— гаварылі, паўтаралі ёй бясконца ходзікі на сцяне. «Што — усё?» — губляла, намагалася яна зноў злавіць сэнс гэтага «ўсё» і часта не магла знайсці, вярнуць хоць якую яснасць галаве, якая поўнілася непадатным, нядобрым туманам.

«Усё адно. Рана ці позна... Ніхто не мінае... Пры-

выкну як-небудзь... Усе прывыкаюць, і я — таксамо...» — прадзіраліся часам у галаве важкія, цягучыя думкі, потым зноў усё прападала ў тумане і атупеласці.

На двары то адзін, то другі, то абодва разам звінелі ланцугамі, брахалі, вылі сабакі. Адзін — басавіта, паважна, другі — па-дзіцячы піскліва, але вельмі злосна, аж захліпваўся. Начныя старажы не спалі, пільнавалі Глушакова дабро, іх брэх сплятаўся з храпеннем побач, з храпеннем за сцяной, з мерным чыканнем ходзікаў — гукамі, якія ўвесь час напаміналі, што яна ў чужым доме, у чужым жыцці.

«Прывыкну, прывыкну... Усе прывыкаюць, і я — як усе...»

На трэці дзень, калі вясельны тлум сціх, свякруха разбудзіла яе яшчэ на досвітку і сказала:

— Ну от, пагасцявалі, пагулялі. Хопіць вылежвацца. Трэба свіней карміць!

Ганна слова не сказала, усхапілася, стала хутка адзявацца.

У канцы гэтага тыдня куранёўцы і алешнікаўцы, якія рабілі грэблю, нарэшце, сышліся. Грэбля была скончана. Роўная, шэрая, а там, дзе толькі што кончылі, жоўтая ад свежага пясочку, ішла яна між багны, між згалелага хмызняку ад нізкага куранёўскага берага да шырокага адхону перад Алешнікамі, як добры знак чалавечай моцы. Яна ўжо нідзе не перапынялася рудой балотнай тванню, твань мокла толькі па баках — адступіла перад грэбляю, перад чалавечым жаданнем.

Дзядзькі з абедзвюх вёсак, сышоўшыся, задаволена пакурылі, пагаманілі, разышліся кожны сваёй дарогай. Праз дзень, у нядзелю, на адхоне перад Алешнікамі сабраліся на мітынг. Народу сплылося столькі, колькі не заўсёды было і на юравіцкім пляцы ў кірмашовыя дні. Былі не толькі з Куранёў і Алешнікаў, але нямала і з Глінішчаў, і з Мокуці, і з іншых сёл. З Юравіч на тачанцы прыехалі на свята Апейка і двое рабочых.

Сярод натоўпу там і тут чырванелі весела сцягі. Ігралі два гармонікі, басавіта грымеў вялікі бубен. Людзі гаманілі, спявалі, жартавалі — людзям было весела. У гэтым натоўпе можа аднаго Васіля тачыла туга; разварушаны агульнай весялосцю, як сам не свой сна-

ваў ён між людзей, мімаволі чакаючы ўбачыць Ганну. Дзіўнае чуў пры гэтым — і нібы хацеў пабачыць, і не хацеў, злаваў, баяўся. Ведаў, што ўсё з ёй кончана яму, а душа ўсё трывожылася, як бы спадзявалася яшчэ на штосьці.

Замест Ганны ўбачыў Яўхіма. Лепш бы не прыходзіў сюды Васіль. Сэрца заныла балюча, як убачыў Карча: стаяў Яўхім з Ларывонам вясёлы, рагатаў, увесь аж свяціўся шчасцем. Нават лакаваны чорны казырок, ссунуты набок, шчасліва зіхацеў. У такім настроі Васіль мала чуў, што гаварыў Дубадзел, які першы ўзлез на прывезеныя калёсы, што былі замест трыбуны. Стаў слухаць толькі тады, як з калёс загаварыў Апейка.

— Дзядзькі і цёткі, хлопцы і дзеўкі! Дарагія нашы таварышы! Мы ўсе сягоння сабраліся тут, каля грэблі, як на свята... І праўда — хіба ж не свята: от ляжыць яна, роўная, сухая, новая грэбля — у дождж, у слату, зімой і ўвесну — едзьце па ёй калёсамі, ідзіце пешкі... Ідзіце — не будзеце не толькі што тануць па пояс, а і ног не замочыце... Не толькі мужчына, дзіця можа прайсці балота цяпер любой парою!.. Можна хадзіць у школу, можна ездзіць на кірмаш, можна ў госці — адзін к аднаму, абы зажадалася!.. Вялікая радасць — грэбля! I ўсе мы, уся воласць, радуемся з вамі і віншуем вас! — Апейка перачакаў гул задавальнення.— Грэбля гэтая звязвае Курані, якія па паўгода, можна сказаць, былі адрэзаны ад другіх сёл, з Алешнікамі, з Юравічамі, са ўсім светам. Цяпер Курані будуць заўсёды, як бы сказаць, у агульнай нашай сям'і... Але і для Алешнікаў грэбля таксама не абы-што. Я не кажу, што цяпер дарога ў лес, на сенажаці стала ім бліжэйшая!..— Людзі, алешнікаўцы, зноў загаманілі з ухвалай.— Грэбля гэтая звязвае разам сёлы, лясы, сенажаці. Звязвае людзей з людзьмі!.. Па такіх грэблях пойдзе ў нашы балоты, у нашу цемру святло, новае жыццё! Культура і дастатак!.. Кніжкі, кіно і трактары!..

Рабочы, што гаварыў за Апейкам, сказаў толькі некалькі слоў, потым разгарнуў чырвоны сцяг, на якім былі намаляваны з аднаго краю — жоўтае поле і жоўты трактар, а з другога — жоўтая труба з дымам. Між трубы і поля былі ў моцным поціску дзве рукі. Рабо-

чы перадаў сцяг Дубадзелу, па знаку якога гармонікі каля калёс пад важкае буханне бубна зайгралі «Інтэрнацыянал».

Апошнім, ад Куранёў, стаў на калёсы Міканор. Ён сказаў, што беднасць і цемра закрываюць жыццё ў Куранях, як раска закрывае балота. Раска заўсёды чапляецца за балота, за ваду, якая не варушыцца, стаіць. Каб разагнаць раску, трэба разварушыць жыццё! І грэбля — гэта першае «вочка», першы пробліск у моры векавечнай раскі! Трэба, не шкадуючы нічога, не баючыся, варушыць балота, затхлае жыццё — і цемра, і раска назаўсёды прападуць. Будзе адна чыстая, светлая вада, светлае жыццё!

Міканор сказаў апошнія словы асабліва горача, можа на ўвесь голас, і тым сапсаваў сваю прамову. Хоць ён яшчэ хацеў, было відаць, гаварыць, музыкі дружна ўдарылі марш — хочаш не хочаш, прыйшлося злазіць з калёс...

Калі ішлі назад, ужо ў самым канцы грэблі Васіль убачыў Міканора зноў, з Міканорам быў Хоня. Васіль здагнаў іх, падаўся побач. Ішлі доўга моўчкі, паглыбленыя кожны ў свае думкі. Круціліся белыя снежныя матылі, мякка дакраналіся да твару, раставалі. Раставалі пад нагамі людзей — уся дарога была пярэстая ад чалавечых слядоў.

Блізка ад цагельні Васіль не ўтрываў, мімаволі прабег вачыма па Глушаковай паласе. Заныла ў грудзях: ажыла, як незагоеная рана, трывожная ноч, надзеі яе і страхі, як бы зноў пачуў пад нагамі цёмную мяккасць свежай разоры. Вунь тое месца, дзе наляцеў на яго Корч, дзе счапіліся, качаліся. Дзе гразіўся яму чалавек з воласці... Грозьба яго пакуль так і засталася грозьбаю, а толькі ўсё кончылася на карысць Карчу...

Як знарок, усё напамінала Васілю ў гэты дзень пра крыўды, пра няўдачы.

— Грэблю от правялі! — прамовіў Васіль з папрокам.— А Корч як сядзеў на выгодзе, на лепшай зямлі, так і сядзіць!

— Што яна табе далася, етая яго зямля! — адгукнуўся Хоня.

— Што! Рассеўся, як рэпа, на добрай зямлі і — нігадкі! І ўпарадкаванне яму ніпачом! І не зачапі яго! Савецкая ўласць сама за яго!

— Савецкая ўлада тут не вінавата,— сказаў Мі-канор.

— А не сагналі ж!

— Сагналі б, кеб не ўлез ты!..

— Я — вінаваты! Найшлі вінаватаго!

— Вінаваты! Еты Зубрыч з воласці, калі заікнуліся адабраць паласу ад Глушака, адразу ўрэзаў: злачынство — патураць беспарадку, разбою! Трэба вучыць паважаць савецкі закон!.. І аставілі Глушаку, як було!..

Міканор дадаў з роздумам:

— Усё адно — кеб і адабралі ў Глушака і аддалі каму другому — мало хто б парадаваўся. Крыўды було б усё адно багата. Усіх не задаволіш адным кавалкам етым, не сакрэт. От штоб да балота падступіцца, ды асушыць, ды раздзяліць!..

— Ат, слухаць няма чаго! Абы пачасаць язык!

— Ето толькі ў нас дзіво! Балото цэлае! Падумаць — і то страшно! Нам усё — страшно! Усё — выдумка!.. Нічого — прыйдзе пара!

Недалёка ўжо віднеліся прыцярушаныя сняжком, як бы не такія панурыя, як заўсёды, куранёўскія стрэхі.

— Ты б от Ганну лепей трымаў пры сабе! — зачапіў Хоня.— Такую дзеўку ўпусціў.

— Упусціў не ўпусціў — што з таго! Чаго мне було дзяржаць яе!..

— Як ето — чаго?

— А так — сам голы!.. Ды шчэ голую браць на шыю!..

— Ета, не сакрэт, на шыі не була б! — сказаў Міканор.— От дзеўка — што ўродаю, што рукамі, першая мо на ўсю воласць! Мяне аж зайздрасць брала, што яна з табою! Упусціў!

— Упусціў! — Васіль раптам ускіпеў.— Ну, упусціў! Што вам!

Міканор сумеўся: упершыню чуў такі сум, такі боль у гэтым маўклівым, недаверлівым хлопцу. Каб суцешыць, супакоіць трохі Васіля, сказаў вінавата:

— Нічога, можа шчэ і не ўсё кончылася! У жыцці, не сакрэт, усяляк бувае...

Васіль не адказаў.

I

*У дадзены том уваходзіць раман «Людзі на балоце» — першы твор з цыкла «Палеская хроніка», які быў напісаны Іванам Мележам на працягу 1956—1960 гадоў.*

*Раманы Івана Мележа «Людзі на балоце», «Подых навальніцы» і «Завеі, снежань» складаюць адзінае мастацкае цэлае і маюць агульную назву — «Палеская хроніка».*

*За першыя два творы «Палескай хронікі» аўтару іх была прысуджана ў 1972 годзе Ленінская прэмія.*

II

Раман «Людзі на балоце», як сведчаць шматлікія выказванні аўтара, мае даволі складаную прадгісторыю.

Яшчэ ў 1946 годзе ў запісной кніжцы І. Мележ зрабіў лаканічную занатоўку:

«Напісаць аповесць пра Палессе».

Пісьменнік меў на мэце расказаць пра пасляваеннае Палессе, пра нялёгкую працу меліяратараў, пра асушэнне балот («Жыццёвыя клопаты». Мінск, «Мастацкая літаратура», 1975, с. 215).

Заслугоўваюць увагі і наступныя занатоўкі, якія адносяцца да 1947 года.

«Напісаць вялікую рэч (калі-небудзь) пра тое, як мянялася і ламалася псіхалогія беларускага селяніна з 1914 года да нашага дня... Этапы — 1914, 1917, 1921, 1926, 1930, 1937, 1941, 1945. Ісці недалёка за вобразамі — узяць жыццё бацькі або маткі Вельмі важная тэма...

Напісаць сцэнарый — пра шлях Беларусі — з 1919 па 1947, Пра вялікія змены за гэты час...»

І яшчэ запіс:

«а) «Наступленне на балоты» — вялікая, прыгожая, нацыянальная тэма. Напісаць.

б) Пяскі Беларусі. Барацьба за ўраджай на пясчаных глебах (нацыянальная тэма)...»

Аб тым, што гэтая тэма ўсур'ёз зацікавіла Івана Мележа, сведчаць і яго крытычныя і публіцыстычныя артыкулы, у якіх падкрэслівалася эканамічная, гаспадарчая неабходнасць меліярацыі забалочаных зямель. У артыкуле «Наша вясна» («Звязда», 1948, 1 мая) І. Мележ пісаў:

«У Акадэміі навук вучоныя нядаўна абмяркоўвалі план асушэння вялізных тэрыторый Палескай нізіны, выкарыстанне яе багаццяў. Асушэнне балотных абсягаў на сотні тысяч гектараў павялічыць пасяўныя плошчы рэспублікі, зменіць аблічча Палесся».

Аднак творчыя намеры маладога пісьменніка раскрыць у мастацкім творы працоўную героіку не знайшлі ў той час канкрэтнага ўвасаблення, бо тады яго цалкам захапіла тэма вайны, тэма гераічнага подзвігу савецкага народа. На працягу пяці год — з 1947 па 1952 — «з незвычайным духоўным уздымам,

з вялікім унутраным напружаннем, гарэннем» («Жыццёвыя клопаты», с. 562) ён працуе над раманам «Мінскі напрамак». Аднак жаданне вярнуцца да ранейшай задумы не пакідала пісьменніка. І ўсё ж не адразу ўзяўся ён за твор пра асушэнне палескіх балот. Ужо быў закончаны «Мінскі напрамак» у першым варыянце, створаны дзве п'есы, некалькі нарысаў і апавяданняў, і толькі тады І. Мележ пачаў працаваць над аповесцю.

Час унёс, аднак, пэўныя папраўкі ў ранейшыя намеры пісьменніка: твор уяўляўся яму ўжо не аповесцю, а раманам. У 1956 г. у інтэрв'ю карэспандэнту «Литературной газеты» І. Мележ сказаў: «У гэтым жа годзе прыступлю да рэалізацыі задумы, якая хвалюе мяне ўжо некалькі год. Падрыхтоўчая работа завершана. Гэта раман аб простых людзях беларускага Палесся» («Литературная газета», 1956, 7 студзеня).

Калі быў закончаны першы раздзел гэтага твора, дзеянне ў якім пачыналася ў перадваенны час, І. Мележ адчуў глыбокую ўнутраную незадаволенасць, нават разгубленасць. Даўняя задума здавалася яму ўжо недастаткова цікавай і значнай. «Пакутлівая няўпэўненасць у тым, што рэч задумана добра, найлепшым чынам, яшчэ доўга стрымлівала мяне» («Жыццёвыя клопаты», с. 404—405),— прызнаваўся пазней пісьменнік. Урэшце пасля доўгіх ваганняў і сумненняў ён вымушаны быў адмовіцца ад першапачатковай задумы і пачаў кнігу пра роднае Палессе «з самага пачатку», з далёкіх падступаў («Жыццёвыя клопаты», с. 216).

У высвятленні гісторыі напісання рамана «Людзі на балоце» значную цікавасць уяўляе невялікі ўрывак пад назвай «Дадому», упершыню змешчаны ў газеце «Калгасная праўда» ад 18 лютага 1959 г. Публікацыя суправаджалася наступнай рэдакцыйнай заўвагай: «Цяпер Іван Мележ працуе над новым вялікім раманам «Час спадзяванняў», дзеянне якога адбываецца ў перадваенныя гады на Палессі. Гэта раман аб тым, як у гады Савецкай улады расло, пераўтваралася Палессе, як раслі, мяняліся людзі, гаспадары свайго лёсу».

Урывак «Дадому» пазней друкаваўся як самастойнае апавяданне. Яно датуецца 1956 г. Змест твора — псіхалагічны стан, перажыванні Дзятлікава Валодзькі, які вяртаецца ў родную палескую вёску пасля няўдалай спробы паступіць у Вышэйшае інжынерна-тэхнічнае вучылішча імя Баўмана. На параходзе, па дарозе з Мазыра да Юравіч, з Валодзькам гутарыць Сцяпан Іванавіч, ён прапаноўвае хлопцу пайсці працаваць меліяратарам. У хаце Валодзьку сустракаюць маці, брат Васіль, Васілёва жонка Маня.

У тым жа 1956 г. было напісана яшчэ адно апавяданне пад назвай «Здарэнне» (Гл. І-шы том дадзенага выдання, с. 210—226 і 437—438) — пра тое, як Валодзька Дзяцел з Куранёў сустракае на балоце людзей з незнаёмымі прыладамі. Абодва творы, як бачым, суаднесены з тэмай рамана пра асушэнне палескіх балот. Як мяркуе даследчык творчасці І. Мележа Д. Бугаёў, не напісаны раман «Час спадзяванняў», у прыватнасці названыя вышэй урыўкі, і з'яўляліся першымі падступамі да «Людзей на балоце» (Дзмітрый Бугаёў. Вернасць прызванню. Мн., 1977, с. 95).

У архіве сям'і пісьменніка захоўваецца некалькі старонак

рукапісу пад назваю «Хлопец і дзяўчына» (датуюцца 7.XI.1958 г.). Сюжэт гэтых урыўкаў нагадвае нам «Палескую хроніку» — тыя ж дзеючыя асобы — Ганна, Васіль, Яўхім. Гэта як бы накіды будучага рамана.

Працэс творчых пошукаў І. Мележа раскрыты ў «Запісных кніжках», якія захоўваюцца ў архіве яго сям'і. Там ёсць запіс наступнага характару:

Васіль — 1905 г.
Ганна — 1907 г.
Луг. Першае каханне.
Прыход бандытаў.
Сватанне.
Вяселле — 1925 г.
Жаніцьба Цімоха — 1926 г.
Сустрэча Ганны і Цімоха — 1927 г.

Першая рэдакцыя рамана сведчыць, што на тым этапе ўзнаўленне эмацыянальна-бытавой атмасферы жыцця беларускай вёскі, паэтызацыя працы, сюжэтная лінія Цімох (Васіль) — Ганна займалі галоўную ўвагу пісьменніка.

Маецца і другі, больш позні запіс І. Мележа.

Частка першая:
На лузе. Прыглянулася Яўхіму.
Першы подых кахання.
У вёсцы. Ганна і Васіль паспрачаліся.
Яўхім заляцаецца. Рэўнасць Васіля.
Мачыха задаволена.
Яўхім. Сваты. Бацькі яго не хочуць. Настайвае.
Ганна не наважваецца. Мачыха дабіваецца.
Сустрэча з Васілём. Спрэчка.
Згадзілася. Плача.

Частка другая:
Вяселле.
Першая ноч.
Уцякла да бацькоў.
Не вярнуся. Вярнулася. Упрасілі.
Цімох (Васіль) жэніцца.

Як бачым, план маральна-псіхалагічны, паглыбляючыся, перарастае ў сацыяльны.

Паводле прызнанняў пісьменніка, зробленых ім у 1963 г., задума рамана «Людзі на балоце» пачала хваляваць яго «гадоў дзесяць назад», але рэальны жыццёвы матэрыял, які ўвайшоў у твор, быў часткова «адабраны» за многа гадоў да задумы. («Жыццёвыя клопаты», с. 214). Сапраўды, пісьменнік дасканала ведаў жыццё і побыт палескай вёскі, яму былі блізкімі і зразумелымі запаветныя думкі і памкненні беларускага працоўнага селяніна. Ён сам быў сведкам тых вялікіх сацыяльных зрухаў, якія адбываліся ў беларускай вёсцы ў канцы 20-х — пачатку 30-х гг. Прыгадваючы выкарыстаныя ў рамане шматлікія сцэны, узятыя з рэальнага жыцця, пісьменнік, у прыватнасці, назваў выезд куранёўцаў на сенакос, святкаванне каляд, сцэны вясковых сходаў, будаўніцтва грэблі, малюнак кірмашу, эпізод малацьбы, сцэну вяселля і інш. «Калі Ганна едзе на кірмаш — па сутнасці не яна едзе, еду я, не яна ходзіць па кірмашы, усяму здзіўляючыся,— хаджу, здзіўляюся я. І калі Васіль да знямогі

косіць або робіць грэблю — гэта не ён косіць і робіць грэблю, а я» («Жыццёвыя клопаты», с. 217).

Захаваны ў рамане «ўсе дарогі, лясы і пералескі, назвы некаторых вёсак і нават імёны некалькіх, праўда другарадных, герояў. Я не выдумаў поле, пра якое марыў Васіль, і цагельню, каля якой ён біўся з Глушаком. Ёсць у сапраўднасці (амаль ужо зарасло) возера, у якім намервалася ўтапіцца Хадоська; і дарога, па якой Ганна ехала на кірмаш, і плошча, дзе гэтыя кірмашы адбываліся» («Жыццёвыя клопаты», с. 405).

Гаворачы пра элементы аўтабіяграфізму ў рамане, пра шчодрае выкарыстанне ўражанняў дзяцінства і юнацтва, пра рэальныя вытокі многіх сюжэтных калізій твора, І. Мележ у той жа час настойліва падкрэсліваў вялікую ролю творчай фантазіі, ролю вымыслу ў працэсе мастацкага адлюстравання рэчаіснасці. Асобна звернута ўвага на прататыпы герояў рамана, на тое, якім складаным быў шлях ад правобраза да вобраза. Сярод герояў, якія «ў поўным сэнсе слова перанесены на старонкі кнігі з жыцця» («Жыццёвыя клопаты», с. 426), з захаваннем іх сапраўдных імён, пісьменнік назваў Зайчыка, Андрэя Рудага і іншых. Аднак галоўныя героі твора — Васіль, Ганна, Яўхім, Глушак — створаны па законах рэалістычнай тыпізацыі, па законах мастацкага абагульнення. «Я мог бы назваць людзей, якія дапамаглі мне дадумаць, напісаць іх, але гэта не мяняе галоўнага. У рамане — выдуманыя, літаратурныя вобразы» («Жыццёвыя клопаты», с. 406),— зазначыў пісьменнік. Гэта і зразумела, паколькі галоўным для аўтара рамана было імкненне «ў адзінкавых лёсах герояў расказаць лёс многіх, лёс народа» («Жыццёвыя клопаты», с. 426).

Калі раман «Людзі на балоце» быў амаль завершаны, у пісьменніка ўзнік намер напісаць «некалькі раманаў, звязаных адзін з адным, якія ахопяць трыццаць гадоў палескага жыцця» («Жыццёвыя клопаты», с. 161). Меркавалася, што цыкл будзе мець агульную назву «Куды ідуць дарогі». Агульныя контуры будучых твораў бачыліся мастаку даволі выразна, але ў працэсе працы «многае высвятлялася, знаходзілася многа новых падрабязнасцей, узнікалі такія рэчы, якіх я і не прадбачыў і якія многае мянялі ў маёй ранейшай задуме»,— прызнаваўся І. Мележ («Жыццёвыя клопаты», с. 238). У прыватнасці, істотна змянілася развязка рамана: першапачаткова кніга павінна была заканчвацца тым, што Ганна пакідае Яўхіма.

У асабістым архіве пісьменніка захавалася багата матэрыялаў, якія сведчаць аб вялікай падрыхтоўчай працы да рамана «Людзі на балоце». Праўда, І. Мележ гаварыў, што яму як аўтару кнігі пра Палессе «амаль нічога не трэба было вывучаць, выпытваць... за выключэннем, можа, нейкіх спецыфічных дэталей, фактаў, якія трэба было ўдакладніць, каб часам не падвяла памяць» («Жыццёвыя клопаты», с. 405). Тым не менш, прыступаючы да напісання рамана, І. Мележ яшчэ раз уважліва перачытвае творы У. І. Леніна, прысвечаныя аграрнаму пытанню і асабліва кааператыўнаму плану пераўтварэння старой вёскі, знаёміцца з навуковымі даследаваннямі, гістарычнымі дакументамі, робіць шматлікія выпісы з перыядычнага друку, у прыватнасці з газет «Беларуская вёска» за 1925 год, «Звязда» за 1929—1930 гады.

Выпісы датычаць самых розных бакоў грамадска-палітычна-

га, эканамічнага, культурнага жыцця Савецкай краіны. Мовай лічб і канкрэтных фактаў яны ў новым ракурсе раскрываюць становішча тагачаснай вёскі, глыбіню класавага размежавання, вастрыню сацыяльных канфліктаў часу.

Паводле раманаў «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» Беларускае тэлебачанне ў 1965—1966 гг. стварыла фільм пад назваю «Людзі на балоце», прысвечаны 50-годдзю Савецкай улады.

Спектакль па гэтых раманах пастаўлены Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатрам імя Я. Купалы ў 1967 г., а таксама народным тэатрам у Мазыры (1970 год).

Героі рамана І. Мележа атрымалі і музычнае ўвасабленне: у 1979 г. з'явілася радыёопера «Барвовы золак» — першая спроба стварэння радыёоперы ў беларускай музыцы (кампазітар Кім Цесакоў, лібрэтыст Валянцін Лукша).

## III

Друкуецца па тэксту апошняга прыжыццёвага выдання («Людзі на балоце». Раман. З «Палескай хронікі», Мінск, «Мастацкая літаратура», 1973) з наступнымі праўкамі:

Стар. 34, радок 28: «Што б» замест: «што» (час. «Полымя», «Людзі на балоце», выданні 1962, 1965, 1971 гадоў — у далейшым даюцца скарочана: «П.», «Л. на б.»).

Стар. 44, радок 38: «зашаргаў» замест: «зашагаў» («П.», «Л. на б.», 62, 65, 71).

Стар. 90, радок 15: «Сцяпан» замест: «Сцяпана» («П.», «Л. на б.», 62, 65, 71).

Стар. 123, радок 37: «па» замест: «на» («П.», «Л. на б.», 62).

Стар. 141, радок 32: «У Куранях» замест: «У Каранях».

Стар. 153, радок 3: «расшчапіць губ» замест: «расчапіць губ» («П.», «Л. на б.», 62, 65).

Стар. 168, радок 42: «по́дсвістам храпенне» замест: «падсвістам храпенне» («Л. на б.», 62, 65, 71).

Стар. 181, радок 20: «Дастань саланінку!» замест: «Дастань саламінку!»

Стар. 194, радок 27: «малочнае» замест: «молочное».

Стар. 200, радок 30: «узняў аладку твані» замест: «узняў аладкі твані» («П.», «Л. на б.», 62, 65, 71).

Стар. 214, радок 10: «не ўседзелі» замест: «не ўседзілі».

Стар. 254, радок 34: «не пайшоў бы кланяцца, у сваты» замест: «не пайшоў бы кланяцца ў сваты» («П.», «Л. на б.», 62, 65, 71).

Стар. 328, радок 8: «калі ў сяле нібы ціха, то ўсе і спяць» замест: «калі ў сябе нібы ціха, то ўсе і спяць».

Стар. 379, радок 28: «апусцілася» замест: «апусцілі-ся» («П.»).

Упершыню надрукаваны ў час. «Полымя», 1961, №№ 8, 9, 10 (скарочана).

Да гэтага — урывак «Раніца» ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1961, 14 лютага; урывак «Постаці з цемры» ў час. «Беларусь», 1961, № 4; урывак «Людзі на балоце» ў газ. «Калгасная

праўда», 1961, 12 снежня; урывак «Людзі на балоце» ў час. «Работніца і сялянка», 1962, № 3.

Першае асобнае выданне кнігі — у 1962 годзе: Людзі на балоце. Раман. З «Палескай хронікі». Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Рэдакцыя мастацкай літаратуры, Мінск.

Апрача таго, выйшлі наступныя выданні рамана на беларускай мове:

Людзі на балоце. Раман. З «Палескай хронікі». Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1965; «Народная асвета», Мінск, 1968.

Збор твораў у шасці тамах. Том V. Людзі на балоце. Раман. З «Палескай хронікі», Мінск, «Беларусь», 1971; «Мастацкая літаратура», 1973.

Крыніцамі для вызначэння дакладнага аўтарскага тэксту рамана, апрача тэкстаў названых прыжыццёвых выданняў, з'яўляюцца архіўныя матэрыялы, якія захоўваюцца:

У Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы АН БССР (фонд № 7, вопісы № 23 і № 24):

1) 10 лістоў машынапіснага тэксту:

частка першая раздзел першы — 1 стар. (праўкі сінім і фіялетавым чарнілам); частка першая раздзел другі — 3 стар. (без правак); частка трэцяя раздзел пяты — 6 стар. (праўкі ў асноўным зроблены алоўкам).

2) Рукапіс рамана «Людзі на балоце», напісаны сінім і фіялетавым чарнілам. Рукапіс мае 102 старонкі. Пачатак і канец рукапісу адсутнічаюць. Ён не падзелены на часткі, толькі на раздзелы і падраздзелы, унутры якіх ёсць свая непаслядоўная нумарацыя. Раздзелы рукапісу не супадаюць з раздзеламі першадруку і наступных выданняў. Напрыклад, частка другая раздзел першы рукапісу адпавядае трэцяму раздзелу першадруку і чацвёртаму раздзелу іншых выданняў рамана; раздзел другі рукапісу адпавядае чацвёртаму раздзелу першадруку і пятаму раздзелу іншых выданняў.

У рукапісу шмат закрэсленых месц, перапрацовак. Сустракаюцца запісы такога характару, як, напрыклад, «Размова з Васілём»: «Хацела ўбачыць. Убачыла (задрыжэла). Глядзела. Адвярнуўся».

Маюцца наступныя часткі і раздзелы рукапісу (адначасова прасочваем пераход частак і раздзелаў рукапісу ў асноўны тэкст):

| *асноўны тэкст* | *рукапіс* |
|---|---|
| а) ч. I р. IV (I і II падраздзелы) | раздзел не ўказаны, адпавядае р. V (мабыць, I ч.) |
| б) ч. II р. I | |
| в) ч. II р. IV і р. V | ч. II р. I і р. II |
| ч. III р. I | ч. II р. III |
| г) ч. III р. IV | увесь ёсць і супадае |
| д) ч. III р. V (без канца) | супадае |

Астатнія 39 старонак — урыўкі з розных частак, раздзелаў, падраздзелаў, з нумарацыяй і без яе.

Гэта — чарнавы рукапіс, які адлюстроўвае першапачатковую стадыю працы пісьменніка над раманам. Пра тое, што гэты рукапіс дае ўяўленне аб пачатковым працэсе стварэння тэксту рамана, сведчыць адсутнасць аднолькавых кавалкаў тэксту як

у рукапісу, так і ў часопісным варыянце. Напрыклад, стар. 125—127 і стар. 245—246 (даюцца па асноўнаму тэксту).

На нашу думку, існуе яшчэ белавы рукапіс (месцазнаходжанне яго пакуль што невядома), які даў бы магчымасць прасачыць паслядоўна гісторыю тэксту рамана. Але з супастаўлення наяўных крыніц высвятляецца, што тэкст рамана быў выпрацаваны яшчэ ў чарнавым варыянце рукапісу. Змены ў сюжэце ў далейшым не назіраюцца. Паляпшаецца раман толькі ў стылістычных адносінах (глядзі варыянты «Полымя»).

3) Карэктура час. «Полымя» з праўкамі І. Мележа сінім чарнілам. 221 старонка. Назва рамана «Туманы над багнаю» закрэслена і заменена назваю «Людзі на балоце». Зверху алоўкам напісана «Аўтарскі», мабыць, рукою рэдактара. Акрамя правак І. Мележа, алоўкам зроблена некалькі правак той жа рукой, з якімі аўтар згадзіўся, бо ўсе яны ўлічаны ў часопісным варыянце.

Рукою І. Мележа зроблены праўкі такога характару:

1) замена слоў:

грэбелька // дарожка; кіламетраў // вёрст; адбіваецца // адмахваецца; нараспеў // сіпла; сціскаліся // млелі (грудзі); плыве // дрэмле (цішыня); вельмі // добра; момант // хвіліну, час; змоўклі // прымоўклі; цяжкай // горкай.

2) перабудова сказаў:

Васіль не адразу знайшоў, што адказаць. // Васіль не ведаў, што сказаць. Але з гэтым кончана. // З усімі скора кончым...

— Прыкажуць — дак пайду! — не здаўся Андрэй. // — Я там раблю, куды, следавацельно, пастаўлены!

3) Некалькі разоў карыстаецца словамі «грэц яго» ў выказваннях Чарнушкі, напрыклад:

— Не бяруць авечак, грэц яго,—спакойна сказаў Чарнушка.

На 132 старонцы подпіс: «Ів. Мележ».

Праўкі носяць, у асноўным, адзінкавы характар. Амаль усе праўкі, зробленыя І. Мележам на тэксце гэтай карэктуры, былі ўлічаны ў «Полымі», за выключэннем наступных:

| | | было: | выпраўлена: | «Полымя»: |
|---|---|---|---|---|
| Стар. 23, | радок 6 | нараспеў | сіпла | сціпла |
| Стар. 47, | радок 3 | неспакойна | неспакойно | неспакойна |
| Стар. 55, | радок 34 | было | було | адсутнічае |
| Стар. 65, | радок 19 | жыта | збожжа | жыта |
| Стар. 140, | радок 21 | да настаўніка | у бок настаўніка | да настаўніка |
| Стар. 201, | радок 37 | адсутнічае | нібыто | адсутнічае |
| Стар. 228, | радок 7 | локцем | кулаком | локцем |
| Стар. 243, | радок 40 | адсутнічае | тады | адсутнічае. |

У архіве сям'і І. Мележа:

1. Машынапіс з праўкамі аўтара сінім і фіялетавым чарнілам. У гэтым машынапісе адсутнічаюць тыя кавалкі тэксту, якіх няма ў «Полымі». Гэта першы машынапіс з праўкамі, якія былі зроблены для публікацыі рамана ў «Полымі».

Зроблена замена слоў, напрыклад: баркас // плыт; выціснуўся // выпаўз; гледзячы // зважаючы; ведаеш // знаеш.

Падраздзелы не супадаюць.

Хадоська называлася Насця, Манечка; Апейка — Падбельскі; Сцяпан — Трахім; Курані — Куранёўка; Дзятлаўка; Алешнікі — Алексічы; куранёўцы — дзятлаўцы.

Частка трэцяя. Ёсць падзагаловак «Вяселле на балоце».

Найбольш выпраўлена частка першая, затым ідуць адзінкавыя праўкі наступнага характару:

| было: | выпраўлена: |
|---|---|
| ішлі | брылі |
| адразу | яшчэ |
| ідзе | прастуе |
| дапала бліжэй | наблізілася |
| кавалка | бруска |
| спадабаўся | прыйшоў даспадобы |

Машынапіс датуецца 1956—1960 гг.

У канцы подпіс: «Іван Мележ».

2. Карэктура кнігі «Людзі на балоце», 1962 год, з аўтарскімі праўкамі сінім чарнілам і простым алоўкам (перакладáў некаторыя словы на рускую мову на стар. 5—14).

Праўкі ў асноўным стылёвага характару. Напрыклад:

| Тэкст карэктуры: | Выпраўлены тэкст: |
|---|---|
| Сцяпан схапіў брата за плячо, за руку, намагаўся з усёй сілы адцягнуць ад Васіля. | У той жа час Сцяпан схапіў брата за плячо, за руку, з усёй сілы стаў цягнуць ад Васіля... |
| Васіль кінуўся выламаць дручок, але гадзюка ўцякла. | Пакуль Васіль схапіў, выламаў дручок, гадзюка ўцякла. |

У тэксце карэктуры аўтарам зроблена паслядоўная замена слоў: гумна // хлява; капрызнымі // невясёлымі; наогул // зусім; заківаў // закруціў; вострым // бледным; вырвацца // вызваліцца; Я баюся // Мне страшна.

Карэктура датуецца 1956—1960 гадамі.

Перад датай словы «Канец першага рамана» закрэслены рукой І. Мележа. У канцы подпіс: «Прачытаў — Іван Мележ 28.І.62 г.». Карэктура мае 468 старонак.

3. Спытак, прысвечаны ўсёй «Палескай хроніцы». 57 старонак (30 старонак — «Людзі на балоце»). Напісаны сінім і фіялетавым чарнілам.

У ім запісы і накіды наступнага характару:

«Сцежкі ў асацэ».
1956 — 21 стар.
1957 — 61 стар.
1958 — 107 стар.
1959 — 132 стар.
1957 год,
1958 год,
1961 год.
Скарб зямлі
Скарбы Палесся
Накіды
Храналогія. (Сцежкі).
Раздзелы
Людзі
Прозвішчы
Пейзажы
1)
2)
3)

4)
**Сёлы**
Куранёўка
Глінішча
Алешнікі
Мокуць
Гаротнікі
Вужаўка
Буславая
Бумажоўшчына
Вадзянічы
Месцы
Каранёўка
Глінішчы
Юравічы
Хойнікі
Мазыр
Гомель
Прыпяць
**Раманы**

1. Сцежкі ў асацэ (закрэслена: «Сцежкі, што ведалі травы» — першапачатковая назва рамана «Людзі на балоце»).
2. Звер хаваецца ў гушчары (закрэслена: «Звер вылез з гушчару» і «Звер цікуе ў гушчары»).
3. Доля брата.
4. Ліхалецце.
5. Туманы таюць у нізінах.

**Характары**
Апейка
Настаўніца
Усевалад Віктаравіч
Асаблівасці жыцця, быту
Людзі, характары
Яўхім (закрэслена), Васіль
Цімох (Ігнат)
Міліцыянер (Прозвішча — Шабета)
Валодзька
Ганніна гора
Ліхалецце — Яўхім
Доля брата — Валодзя
Ганна
Яўхім яе ненавідзеў і любіў
Трахім
Сцяпан (закрэслена), Іван — меліяратар
Друг Васіля Алёша («Губан»)
Зубрыч
Трахім (закрэслена), Сцяпан — сын Карча.

## IV

Найбольш істотныя праўкі былі ў часопісным варыянце. Таму тут прыводзяцца амаль усе асноўныя варыянты час. «Полымя».

Варыянты час. «Полымя»:

Стар. 7, радок 3, замест: Навокал // Сівабародыя старыя казалі, нібы чулі ад сваіх бацькоў і дзядоў, што былі часы, калі востраў з усіх бакоў акружалі вадзяныя прасторы. Але пара гэтая даўно ўжо сплыла, цяпер, як сумная памяць тых часоў, тут

Радок 3, пасля: гніла // навокал

Радок 4, замест: моклі панурыя // шумелі вечна мокрыя

Радок 5, замест: ля берага // з аднаго боку

Радок 8, пасля: поле. // ускрай якога пад нярослым хвойнічкам, ціха бялелі крыжы могілак

Радок 11, пасля: да // краю

Радок 23, замест: са светам // з зямлёю

Радок 24, замест: яна // сувязь гэтая

Стар. 8, радкі 41—42, пасля: варухнуўся, // хутка

Стар. 9, радок 12, замест: хлява, // гумна

Радок 39, замест: невясёлымі // капрызнымі

Стар. 10, радок 12, пасля: ззяла, // яму

Стар. 11, радок 31, замест: дабрата // лагоднасць

Стар. 12, радкі 2—3, замест: ўкінутай у // пакладзенай на

Стар. 13, радкі 10—11, замест: хаценне, // хаццё

Радок 25, пасля: палавінках. // Валодзька, рыючы ілбом пульхную зямлю, выў і роў ад болю, ад крыўды і ад злосці:

Стар. 14, радок 31, пасля: яе, // гэту

Стар. 21, радок 15, пасля: па галаве. // Кончыкі губ яе крывіліся, як з болю.

— Гаротнік ты мой!.. Надзея ты мая ясная!..

Стар. 24, радкі 16—17, пасля: згоду. // з яго думкай.

Радок 37, замест: брусок сала ∾ на хустку. // і некалькі зялёных гуркоў, паклаў на разасланую перад Ганнай хустку.

Стар. 25, радкі 7—8, замест: салам ды цыбуляю, // смачным гурком.

Радок 31, замест: брала // прыбірала

Стар. 27, радок 4, замест: парадзелай цемры // парадзелым прыцемку

Стар. 28, радкі 21—39, стар. 29, радкі 1—38 — адсутнічаюць.

Стар. 29, радкі 39—41, замест: Васіль ∾ зачараваны. // Вось так здзівіла, зачаравала раптоўна Васіля Ганна.

Стар. 31, радок 2, замест: гаворках // чутках ад

Стар. 33, радкі 19—20, замест: зусім // наогул

Стар. 37, радок 8, замест: Не раз каціўся // Моцна атрымаў

Стар. 38, радок 43, замест: мітусні // мітусяніны

Стар. 39, радкі 25—26, замест: Пакуль ∾ ўцякла... // Васіль кінуўся выламаць дручок, але гадзюка ўцякла...

Стар. 41, радок 43, замест: надзень... // хай возьме...

Стар. 42, радок 13, пасля: папраўляла. // рукою.

Стар. 44, радок 6, пасля: абрэз, // ад Васілёвага жывата

Радок 22, тэкст І ∾ хочаш! — адсутнічае.

Радок 28, замест: Не з'ядзім!... // калі з галавою!..

Стар. 48, радок 32, замест: — На еты раз — // — Вот

Стар. 50, радкі 31—32, пасля: на падмогу. // — А

Стар. 53, радок 36, замест: вёсцы // сяле

Стар. 55, радок 20, замест: вартае // праўду

Радок 33, замест: закруціў // заківаў

Стар. 57, радкі 17—18, замест: — Аладкі ∾ падаць!.. // Як помню сябе...
Радок 20, тэкст: Нічога няма! — адсутнічае.
Стар. 60, радок 3, замест: графіт, // грыфель,
Стар. 61, радок 15, пасля: адразу // неяк
Стар. 65, радок 4, пасля: плач. // а тут яшчэ гаворка гэтая.
Радок 10, замест: горбіўся // стаяў
Стар. 71, радок 8, замест: знаеце, // ведаеце,
Радкі 9—10, тэкст: Ганна ∾ пацікавілася: — адсутнічае.
Радок 27, замест: Хонеў голас. // гарэзны хлапечы голас, які смяяўся з бога.
Радок 35, замест: — Добры ∾ — сказала // — Ты лепш авечак сваіх у той павеці супакойвай! — параіла
Стар. 73, радок 26, замест: рабацінкамі. // рабаціннем
Стар. 78, радок 5, замест: Табе хто // Ніхто ж не
Радок 36, пасля: сёрбанне, // баршчу,
Стар. 81, радкі 25—28, замест: Хадосьчын бацька ∾ адхілілася. // Хадосьчын бацька Ігнат, з маршчыністым ілбом, з руЖовым плехам і барадою, падобнай на тую, што і на прасніцы, гнуўся крыху ўбаку, час ад часу пакрыкваў на жонку, што мяняла паставу, засланяла святло: каб адхілілася.
Радкі 29—30, тэкст: — зазлаваў ён нарэшце.— адсутнічае.
Радок 31, замест: сказала: // гаварыла:
Радок 34, замест: нібыто // трохі
Радок 37, пасля: лапаць. // што трымаў на каленях.
Стар. 82, радок 37, слова: нібыто — адсутнічае.
Стар. 83, радок 33, пасля: і // з радасцю
Стар. 87, радок 28, пасля: — Не баішся? — // весела,
Стар. 88, радок 6, замест: сахі, // шула,
Стар. 89, радок 42, пасля: руках // бадзёры
Стар. 101, радкі 19—20, замест: з ланцуга сарваліся, // гайня з ланцуга,— думаў,
Стар. 108, радок 16, замест: такіх // гэтых
Стар. 110, радок 13, замест: ўсцягнуў // абуў
Стар. 112, радок 38, замест: — Міндальнічаць ∾ нельга!.. // — За гэта, канешне, шыю мыліць нам трэба!..
Стар. 119, радок 14, замест: Рэчка // Вада ў рэчцы
Стар. 122, радкі 2—3, замест: стаў, ∾ каля комінка. // засоп, шукаючы ўпоцемку адзежу, лапці, маці прамовіла санліва, са шкадаваннем:
— Рано ж, мабуць, шчэ... І пеўняў не чутно було...
— Не ляжыцца штось...
Яна ўсхапілася, хутка адзелася, стала завіхацца каля комінка.
Стар. 124, радок 9, замест: лупіў // лупцаваў
Радок 34, пасля: які // днямі
Стар. 126—128, радкі 41—13, тэкст: на двары пачулася ∾ страхі, калі — адсутнічае.
Стар. 128, радкі 14—15, тэкст: як злы напамінак, як пагроза — адсутнічае.
Стар. 128—129, радкі 39—16, тэкст: Васіль заўважыў: ∾ — Не а... — адсутнічае.
Стар. 130, радок 9, замест: успомніў // першы паспрабаваў звязаць перарваную гаворку

